**№№7–8 (3546–3547)**

13 студзеня 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля». Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**З-ЗА КРАТАЎ**

## *Мікалая Статкевіча пераводзяць у турму*

12 студзеня ў Шклоўскай калоніі адбыўся суд, які пастанавіў перавесці экс-кандыдата на пасаду прэзідэнта Мікалая Статкевіча адбываць пакаранне ў больш жорсткіх умовах. Цяпер палітык будзе тры гады знаходзіцца ў турэмнай камеры.

Фармальнай падставай для суда сталі спагнанні з боку адміністрацыі за парушэнні правілаў унутранага распарадку. Адным з такіх парушэнняў, напрыклад, было тое, што палітвязень не меў на вопратцы адпаведнай біркі з прозвішчам. Паплечнікі Мікалая Статкевіча лічаць, што сапраўднай прычынай пераводу ў турму стала помста ўлад за адмову пісаць прашэнне аб памілаванні.

Цяпер палітвязню будзе дазволена толькі адна бандэроль вагой да 2 кг замест трох па 30 кг, а таксама толькі адно кароткачасовае спатканне ў год. Апроч таго, цягам месяца ён можа патраціць грошай не больш за адну базавую велічыню.

*"Такіх выпадкаў пераводу са звычайнай установы ў турму раней не было,* — гаворыць праваабаронца Гары Паганяйла. — *Выпадак з Мікалаем Статкевічам — першы".*

Па папярэдніх звестках, Статкевіч будзе пераведзены ў турму №4 Магілёва.

### З першых вуснаў

*"Я не магу сказаць, што Статкевіч гэта прыняў як належнае. Мы не згодныя, што рашэнне прынята законнае і абгрунтаванае, але разам з тым чагосьці падобнага Мікалай Віктаравіч чакаў",* — сказаў адвакат Статкевіча **Сяргей Новік.**

Ён таксама адзначыў, што "*Статкевіч выглядае нядрэнна, кажа, што адчувае сябе таксама нядрэнна, наколькі гэта магчыма ў рамках папраўчай установы".*

Дарэчы, абскардзіць судовае рашэнне аб пераводзе ў турму немагчыма.

### ТЫМ ЧАСАМ

17 студзеня будзе вырашацца пытанне аб пераводзе Мікалая Аўтуховіча на больш жорсткі рэжым адбыцця пакарання.

Палітвязня, які адбывае пакаранне ў Івацэвіцкай калоніі №5 за нібыта незаконнае захоўванне, перавозку пяці патронаў і паляўнічай стрэльбы, абвінавачваюць у шматлікіх парушэннях правілаў унутранага распарадку. Парушэнні мелі дробны характар, напрыклад, сярод іх — адмова пайсці ў сталовую. Хаця Аўтуховіч мусіць харчавацца дыетычнымі прадуктамі, бо на ягоным здароўі адбіліся шматлікія галадоўкі пратэсту.

16 снежня грамадскасць даведалася аб тым, што палітвязень ускрыў сабе вены. Пракуратура правяла следства і пастанавіла, што гэты акт "был актом членовредительства в связи с протестом существующим требованиям установленного порядка отбывания наказания, предъявляемых администрацией исправительного учреждения к осужденным". Гэта нягледзячы на тое, што сам Аўтуховіч тлумачыў свой учынак тым, што адміністрацыя заплюшчвае вочы на супрацьпраўныя дзеянні аднаго з супрацоўнікаў калоніі, які збівае зняволеных.



## *Нарушили хоть одно условие соглашения — верните 5 миллиардов долларов*

*Подробности сделки по «Белтрансгазу» попали в СМИ и вызвали скандал*

В ноябре 2011 года в российской столице между ОАО "Газпром" и Госкомитетом по имуществу Республики Беларусь было подписано соглашение о продаже предприятия "Белтрансгаз", содержание которого ранее не разглашалось. Как выяснилось, сторонам было что скрывать.

Как теперь выясняется, в соответствии с документом, "Газпром" имеет право потребовать от властей Беларуси вернуть 5 миллиардов долларов, которые были уплачены российской стороной за проданные российской компании акции ОАО "Белтрансгаз". *"А также компенсировать ОАО "Газпром" все убытки, которые могут у него возникнуть в связи с этим в случае невыполнения любого из указанных в документе условий",* — цитирует соглашение РИА "Новости".

Условия, которыми была обставлена сделка, согласно сообщению российского информагентства, следующие:

— потребление закупаемого у ОАО "Газпром" газа исключительно на территории Беларуси;

— беспрепятственная и бесперебойная транспортировка по территории Беларуси природного газа, подаваемого с территории России;

- исключительное право "Белтрансгаза" на закупку природного газа, вывозимого с территории России и предназначенного для потребителей Беларуси;

— неиспользование специальных прав по управлению ОАО "Белтрансгаз", которые бы нарушали или ущемляли объем прав, предоставленных акционерам "Белтрансгаза" в соответствии с применимым законодательством о хозяйственных обществах, включая введение особого права ("золотой акции") на участие в управлении белорусским газотранспортным предприятием;

— отсутствие не санкционированного собственником природного газа отбора из потоков газа, транспортируемых через территорию Беларуси;

— неизменность условий пользования земельными участками под объектами недвижимого имущества белорусского участка газопровода Ямал—Европа в соответствии с законодательством Беларуси, действующим на дату подписания соглашения.

Белорусское государственное информационное агентство БЕЛТА уже выступило с резким осуждением публикации в российских СМИ условий продажи "Белтрансгаза". По мнению агентства, наверняка согласованному на самом высоком уровне, утечка сведений о сделке была санкционирована одним из департаментов "Газпрома" и играет роль информационной дубинки.

**АКТУАЛІІ**

*Святлана КАЛІНКІНА*



# Быць людзьмі

Больш за два месяцы, з 8 лістапада, ніхто не бачыў Андрэя Саннікава. Праўда, начальнік калоніі "Віцьба-3", дзе Саннікаў знаходзіцца, сцвярджае, што з палітыкам усё добра і ён ні на што не скардзіцца. Каб хто верыў — дык, можа, гаварыў бы, што Андрэй Алегавіч наўпрост адпачывае, нібы ў санаторыі, і таму ўсіх папрасіў яго не турбаваць. Але ніхто не паверыць. Бо найцяжэйшае выпрабаванне — нічога не ведаць пра сваіх блізкіх: ці жывая маці, ці здаровы сынок, ці не здзекуюцца з таксама асуджанай жонкі?

Здзекуюцца. І з Андрэя, і з Іры Халіп, і з Алы Уладзіміраўны Саннікавай. На нашых вачах здзекуюцца.

За гэтыя два месяцы ім ужо можна было не раз пасівець, затапіць слязьмі Свіслач.

Дзе ён? Чаму яго схавалі ад людскіх вачэй? Чаму не пускаюць адваката?..

Што з ім? Збіваюць? Калечаць? Накачваюць псіхатропамі?..

Як ён? Трэці месяц у адзіночцы. Без лістоў, без аніякай вестачкі з волі. Адзін. З чалавекападобнымі ахоўнікамі і халоднымі сценамі...

Ад усяго гэтага можна звар'яцець там, у "Віцьбе". Можна звар'яцець тут, на волі. Тое, што робіцца, гэта сапраўдныя катаванні і Саннікава, і ягонай сям'і.

На Раство, падчас тэлевізійнай трансляцыі з Кафедральнага сабора аператар нене ды і выхопліваў твар немаладой жанчыны ў хустачцы. Аніякай рэлігійнай апантанасці. Яна нібы проста прыслухоўвалася да чагосьці ў сваім сэрцы, нібы адна ў натоўпе размаўляла з Богам. Стомленыя вочы колеру зімовага неба. Змучаны позірк. І нешта такое ў твары, што парадноўвае яго з лікамі на іконах. Аператары афіцыйных тэлеканалаў, магчыма, і не ведалі, што паказалі ўсёй краіне, як Ала Уладзіміраўна Саннікава просіць Бога заступіцца за сына. Моліць, каб уратаваў, каб засцярог.

Больш ёй няма каго прасіць. Хоць на яе баку ўсе законы, якімі неабмежавана дазволены і сустрэчы падабароннага з адвакатам, і ліставанне, і тэлефонныя званкі, і нават спатканні з роднымі ў вызначаныя тэрміны. Але немаведама для каго і дзеля чаго тыя законы пісаліся. Падцерліся імі. І родныя Саннікава нібы б'юцца галавой у сцяну, калі патрабуюць ад турэмшчыкаў элементарнага — законы выконваць. А тыя — хто нахабна, а хто і вінавата — толькі ўказваюць ім пальцам уверх: пішыце, маўляў, іншаму начальніку.

Ужо нават не цікава, што гэты самы начальнік сабе думае. Бо, хутчэй за ўсё, нічога ён не думае і не плануе, акрамя аднаго...

Ужо зразумела, што Паўночную Карэю ў Еўропе, дзякаваць Богу, цяпер не пабудуеш. І як толькі паўстане пытанне, хто вінаваты ў бязмежным таптанні законаў і правоў беларусаў, то ясна, на каго ўкажуць пальцам сённяшнія выканаўцы-вінцікі.

Праўда, не зразумела, што ж адбылося з намі, беларусамі? Што ж мы за людзі?

Калі б нехта публічна здзекаваўся з сабакі ці з коткі — кідаліся б ратаваць, абураліся, гучна гаманілі б: "Якое дзікунства! Які сорам! Як так можна да жывой істоты!" У той жа час на нашых вачах здзекуюцца з людзей, з іхніх сем'яў — але маўчым. Еўропу заклікаем ратаваць беларускіх палітзняволеных, Злучаныя Штаты, на чужых палітыкаў спадзяёмся, на чыюсьці, а не на сваю прыстойнасць і прынцыповасць.

Год мінуў пасля прэзідэнцкіх выбараў, але ні адна апазіцыйная партыя так і не распачала нацыянальную кампанію за вызваленне тых, хто апынуўся за кратамі! Усе на сваіх з'ездах, соймах, замежных сустрэчах, у розных заявах патрабуюць: "Вызваліць!" Але ніхто не пайшоў да людзей з прапановай усім народам падтрымаць гэты заклік. Да тых беларусаў, якія на прэзідэнцкіх выбарах галасавалі за Саннікава, за Статкевіча, за Някляева... І да тых беларусаў, якія ўжо пасля выбараў зразумелі, што іх падманулі. Якія галасавалі за Лукашэнку, але ўсё ж такі за тое, каб у нашай краіне быў закон, а не беззаконне.

Палітыкі мяркуюць: людзі страшэнна напалоханы. Пабаяцца паставіць свой подпіс пад лістом да прэзідэнта з патрабаваннем выпусціць з турмаў палітычных закладнікаў...

Але ці так гэта? Хто на самай справе спалохаўся — мы ці палітыкі?

Не магу і не хачу верыць, што беларусы, якія падчас вылучэння апазіцыянераў кандыдатамі ў прэзідэнты не баяліся не толькі свае подпісы ставіць, але і пакідаць для праверкі ўсе пашпартныя даныя, цяпер пабаяцца быць людзьмі.

**ПОЛИТКУХНЯ**

# Чистка рядов

*Минская городская организация проголосовала за исключение из Объединенной гражданской партии Андрея Дмитриева*

Напомним, что, будучи членом ОГП, Андрей Дмитриев на последних президентских выборах являлся руководителем предвыборного штаба не партийного кандидата, а Владимира Некляева. И сегодня Дмитриев остается одним из руководителей кампании "Говори правду!". При этом партийных рядов он по какой-то причине не покидал.

О том, что Ярослав Романчук и Андрей Дмитриев должны быть исключены из ОГП, многие партийцы заговорили сразу после того, как Белорусское телевидение показало их покаянные монологи о событиях, предшествовавших разгону акции протеста в день президентских выборов. Во время суда Андрей Дмитриев публично попросил прощения за свое поведение, однако прислушаться к голосу тех партийных товарищей, которые настаивали на его выходе из партии, не захотел.

В результате Дмитриев исключен из ОГП с формулировкой "за нанесение партии политического вреда".

## *Евгений ОГУРЦОВ: «Он работал сразу на два фронта. Или на три?..»*

Известный журналист, член ОГП **Евгений Огурцов,** говоря о Дмитриеве, едва сдерживает эмоции:

— Самое забавное во всей этой истории состоит в том, что в течение целого года Андрей Дмитриев не снижал своей "оппозиционной деятельности", продолжая и по сей день позиционировать себя политиком-демократом. Множество его выступлений, заявлений, призывов, не стесняясь, публиковали и публикуют СМИ, в том числе и независимые, словно бы ничего особенного и не произошло. Более того, г-н Дмитриев, после того как публично оболгал и, по сути, предал своего лидера, был избран впоследствии, заместителем Владимира Некляева в движении "Говори правду!". Вдумайтесь, человек, который врал на всю страну, — один из руководителей структуры, призывающей говорить правду!

На этом фоне исключение Дмитриева из рядов ОГП становится знаковым событием — Объединенная гражданская партия начала процесс своего очищения.

Последуют ли за своими коллегами по "шестерке" демократических партий и движений господа из "Говори правду!"? Думается, что нет. Странная зависимость этой организации от человека, который нанес ей непоправимый моральный урон, — очевидна. На чем она держится— тоже догадаться не трудно. Ведь будучи руководителем Международной комиссии ОГП, Дмитриев контактировал с европейскими структурами и получал там не только моральную поддержку. Причем работал сразу на два фронта: ОГП и ГП. Или на три?..



Интересно, знают ли сегодняшние европейские партнеры г-на Дмитриева о его "подвигах"? Если знают и молчат, то знаменитая европейская политкорректность пополнилась еще одним значением — политической всеядностью. Тогда встает вопрос: а имеет ли право белорусская оппозиция предъявлять Лукашенко обвинения в нарушении норм морали, если Дмитриев по-прежнему — один из ее лидеров?



## *Анатолий ПАВЛОВ: «Он должен был сам уйти»*

Руководитель Минской городской организации ОГП **Анатолий Павлов** комментирует ситуацию так:

— Формулировка согласно уставу — "за нанесение политического вреда партии". А политический вред очевиден. Возьмем прошлые выборы. Впервые партия решением съезда выдвинула своего кандидата в президенты. При этом Дмитриев, будучи не просто рядовым членом партии, а членом Национального комитета и руководителем международной комиссии ОГП, демонстративно занимался руководством штаба абсолютно другого кандидата. Как это рассматривать, если не как политический вред?

И второй момент — его заявление, прозвучавшее по Белорусскому телевидению после 19 декабря 2010 года.

Надо отдать должное Ярославу Романчуку — после своего заявления по БТ он нашел в себе мужество написать заявление и выйти из партии. Дмитриев не счел нужным это сделать. Не сомневаюсь, он еще устроит возню вокруг своего исключения. Тем более сейчас, когда озвучил свои планы по созданию левоцентристской партии, что, кстати, уже идет вразрез с идеологией ОГП. Он должен был сам уйти, но не сделал этого. Поэтому горсовет принял такое решение.



## *Андрей ДМИТРИЕВ: «Пришло время заниматься реальной политикой»*

Сам Андрей Дмитриев не только не намерен уходить из политики, а наоборот, имеет большие планы.

— Мне все звонят и поздравляют, причем абсолютно серьезно, без тени иронии. Это показательно.

Что тут скажешь? Приняли решение втихаря, с завидной "быстротой" отреагировав на события 2010 года. Возможно, такой шаг сделан сейчас в рамках подготовки к предстоящему съезду ОГП и ради напоминания о себе. А я напомню о другом: партийные чистки всегда были элементом отвлечения от настоящих проблем.

Что касается информации о некоей якобы создаваемой левоцентристской партии, эта "новость" стала для меня еще одним сюрпризом. Хорошо хоть, что не приписали намерение возглавить "Белую Русь"...

В свое время ОГП дала мне хороший опыт, много интересных знакомств и друзей — все это осталось со мной. Пришло время заниматься реальной политикой, понимая задачи и цели. Впереди много работы: интересной, разной, креативной, как это уже заведено в "Говори правду!".

***

*Нужны ли комментарии? Думается, что не нужны. Каждый читатель вправе сам сделать выводы. Тем более что они лежат на поверхности.*

**Ирина МАЛЬЦЕВА.**

**ДОСЛОВНО**

## *Яцек ПРОТАСЕВИЧ: «Ситуация в Беларуси изменилась с плохой на очень плохую»*

*12 января на заседании политкомитета Европарламента в Страсбурге глава рабочей группы по Беларуси* ***Яцек Протасевич*** *заявил: "Беларусь является одним из важнейших вопросов нашей повестки дня, Европарламент пристально следит за развитием ситуации в этой стране", пишет БелаПАН.*

*"Более года прошло с дня печальных событий. С нашей точки зрения ситуация изменилась с плохой на очень плохую. В 2010 году мы были довольно оптимистичны, обсуждая перспективы развития отношений ЕС и Беларуси, но после событий 19 декабря сотрудничество стало невозможным",* — сказал Протасевич.

**ВАС ЦІКАВІЦЬ...**

## *Дык а дзе танны газ?*

**Каторы месяц мы чуем пра тое, што расійскі газ сёлета будзе пастаўляцца ў Беларусь па цэнах, значна ніжэйшых, чым у мінулым годзе. Але мяне цікавіць: ці сапраўды для нас, беларускіх спажыўцоў, газ стаў таннейшым?**

**Міхаіл Арэшкін, г.Мінск.**

Нягледзячы на сапраўды значныя зніжкі на расійскі газ, якіх Беларусь дабілася ў абмен на продаж аднаго з галоўных прадпрыемстваў — "Белтрансгаза", цэны на газ для юрыдычных асоб і прадпрымальнікаў засталіся такімі ж, як і ў мінулым годзе. Яны па-ранейшаму складаюць ад 245 долараў за тысячу кубаметраў да 375 долараў пры спажыванні звыш вызначаных аб'ёмаў.

Як мяркуе эканаміст Сяргей Балыкін, зніжкі, пра якія столькі казалі ўлады, сталі выгаднымі толькі для самой улады і ўжо расійскага "Белтрансгаза".

— У гэтым ланцужку ўсе неяк зарабляюць. Атрымліваецца, што "Газпром" даціруе такім чынам "Белтрансгаз" ці "Белтрансгаз" такім чынам "наварваецца". Таксама магчыма, што тут нейкі камбінаваны варыянт.

Паводле слоў Сяргея Балыкіна, танны газ большасці беларусаў нічога не дасць: "Гэта хутчэй прапаганда, бо ў выйгрышы тут застаецца толькі дзяржава, а не спажыўцы".

З-ЗА КРАТАЎ

## Саннікаў даслаў ліст... выключна пра кветкі

*Пасля вялікага перапынку Ірына Халіп, жонка зняволенага экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава, нарэшце атрымала ад яго ліст.*

Ліст ажно на дзве старонкі, але ў ім няма ні слова ні пра самога Саннікава, пра яго самаадчуванне, ні пытанняў пра сям'ю — сына, жонку, бацькоў.

*"Гэта не ліст, гэта кароткая рэкамендацыя — як паліваць кветкі,* — распавяла Ірына Халіп. — *Я думаю, што яму дакладна патлумачылі, што калі ён будзе пісаць хоць што-небудзь пра сябе, пра тое, што адбываецца з ім, то ніколі адтуль не выйдзе".*

Але, кажа Ірына, відавочна, што пісаў ліст Саннікаў — яго почырк лёгка пазнаецца. І яна робіць з гэтага ліста выснову, што, прынамсі, яе муж жывы.

Дарэчы, ліст быў напісаны і адпраўлены 3 студзеня, але прыйшоў на адрас Ірыны толькі 11 студзеня.

ПРЫЗНАЧЭННЕ

## Палкоўнік Мельчанка пайшоў на павышэнне

Начальнікам міліцыі грамадскай бяспекі МУС прызначаны **Мікалай Мельчанка.** Да гэтага прызначэння палкоўнік Мельчанка з'яўляўся намеснікам начальніка УУС Мінаблвыканкама — начальнікам міліцыі грамадскай бяспекі УУС.

Нагадаем, што больш за два апошнія гады міліцыю грамадскай бяспекі МУС узначальваў палкоўнік міліцыі **Яўген Полудзень.** Аднак 8 снежня 2011 года ён быў затрыманы. У гэты ж дзень Генпракуратурай у дачыненні да яго была ўзбуджаная крымінальная справа. Абвінавачваюць Полудня ў злоўжыванні ўладай або службовымі паўнамоцтвамі. Цяпер ён знаходзіцца пад вартай.

ПРЭЦЭДЭНТ

## Адбіткі пальцаў беларуса будуць аналізаваць эксперты ААН

*У Камітэт ААН па правах чалавека з Беларусі накіравана першая скарга на прымусовую дактыласкапію.*

Пачалося ўсё з таго, што суд Савецкага раёна Гомеля аштрафаваў старшыню гомельскай абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Васіля Палякова за непадпарадкаванне законнаму патрабаванню супрацоўніка міліцыі, які прымушаў Палякова прайсці дактыласкапію. У абласным і Вярхоўным судах скаргі на такое рашэнне не былі задаволены, і палітык вырашыў звярнуцца ў міжнародную структуру.

У сваім звароце Палякоў прыводзіць довады, чаму прымусовая дактыласкапія парушае ягоныя правы:

"Наяўнасць у нацыянальным заканадаўстве Беларусі названага прадпісання прывяла да прымянення да мяне дыскрымінацыі па прыкмеце майго полу і года нараджэння, забароненай па сэнсе артыкула 26 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Увёўшы ў нацыянальнае заканадаўства такі падыход, Рэспубліка Беларусь парушыла прынцып роўнасці ўсіх грамадзян перад законам, паколькі падставай для дыскрымінацыі на заканадаўчым узроўні ўвяла такую персанальную характарыстыку, як узрост і пол чалавека. У выніку да чалавека ставяцца не як да асобы, а як да прадстаўніка групы людзей (ваеннаабавязаныя грамадзяне). Калі мяне выклікалі ў міліцыю здаць адбіткі пальцаў, я адмовіўся, бо супрацоўнікі міліцыі не прывялі ні аднаго аргумента, які б абавязваў мяне прайсці працэдуру абавязковай дактыласкапічнай рэгістрацыі".

Нагадаем, што беларускія праваабаронцы ўжо некалькі гадоў змагаюцца за адмену прымусовай дактыласкапіі, але безвынікова.

БОЛЬ

*Ирина ХАЛИП — специально для «Народной Воли»*

# Зечки

В начале лета, вскоре после всех наших "декабристских" судов, в Минск приехала известная российская журналистка Ольга Романова. Ее муж, банкир Алексей Козлов, к тому времени сидел уже три года (сейчас он освобожден Верховным судом России, и приговор признан незаконным — главным образом, благодаря усилиям Ольги, которая не сдавалась ни на минуту и все три года бегала по инстанциям, бомбардировала их письмами и жалобами, собирала доказательства его невиновности). Но тогда, в июне, Алексей сидел, и до оправдания было еще полгода. Во всяком случае Ольга на оправдание мужа не надеялась.

О чем могут говорить две женщины, у которых сидят мужья? Конечно, о тюрьмах, этапах, передачах, свиданиях. Мы сравнивали условия "Володарки" и Жодинского СИЗО с Бутыркой и "Матросской тишиной". Ольга завидовала, что страна у нас такая маленькая, и это значит, что этапировать несколько месяцев, как в России, невозможно. Только сейчас я, кстати, могу оценить, как тяжко было Ходорковскому, когда его везли в Краснокаменск Читинской области — через всю Россию, в "столыпине".

— Оль, — спросила я, — а вот интересно, есть ли какое-нибудь одно слово, чтобы нас определить? А то "жены зеков" — как-то длинно.

— Конечно, есть! — ответила Романова. — Мы — зечки!

— Ну уж нет, зечки — это те, которые сидят.

— И те тоже!

— Хорошо, а я тогда кто? И сама сидела, и муж сидит.

— А ты — дважды зечка! — щедро одарила меня почетным званием в духе "дорогого Леонида Ильича" Оля.

Не буду ей возражать. В конце концов, если жену генерала называют генеральшей, то справедливо жену зека назвать зечкой. Филологические изыскания никакого другого варианта не дают. Пусть так и будет — зечки.

Мало кто задумывается, как меняется жизнь женщины, когда ее муж или сын оказывается в тюрьме. Ей тоже выносится приговор. К примеру, ее приговаривают к таcканию тридцатикилограммовых баулов в зону, где сидит родственник. Все зечки разные — молодые и пожилые, хрупкие и "габаритные", но груз у них один и тот же. И вот представьте, каково тащить 30 килограммов женщине, весящей не намного больше. А ведь нужно еще и до зоны добраться — отнюдь не все ездят на машинах. И общественный транспорт вовсе не останавливается у ворот колоний. То есть вопрос не только в том, чтобы протащить свои баулы от машины или маршрутки до зоны: нужно добраться до остановки или до вокзала, потом каким-то образом дотащиться до колонии, и желательно сделать это все затемно, чтобы занять очередь и успеть оформить передачу. А до того — все 30 килограммов купить, да потом весь вечер взвешивать пакеты на кухонных весах, чтобы тютелька в тютельку, чтобы без перевеса, но и никак не меньше положенной "тридцатки". Желательно еще и взять с собой пару килограммов в запас: а вдруг что-нибудь не примут? Будет чем заменить прямо на месте. А то ведь не простишь себе потом, что из-за твоей непредусмотрительности муж недополучит нормальных продуктов.

Дотащить до крыльца — еще не конец. Могут и помочь ведь, и сопроводить до самой колонии — друзья, подруги, братья. А вот потом нужно тянуть все 30 килограммов в комнату приема передач, и это отдельное испытание. Если, к примеру, в Новополоцкой колонии эта комната хотя бы находится на первом этаже, то в "Витьбе" — на втором. И нужно тащить весь свой скарб вверх по лестнице. К слову, комнаты длительных свиданий в той же "Витьбе" находятся на первом этаже, а это значит, что сначала нужно занести все сумки наверх, а потом по тому же маршруту протащить вниз. А ведь на длительное свидание везут намного больше 30 килограммов — "тридцатку" счастливый обладатель права на "свиданку" может потом вынести с собой в зону. А все остальное — еда на два дня (каждое блюдо в отдельном контейнере, что добавляет багажу громоздкости), постельное белье, которое многие возят с собой, собственные вещи плюс домашний спортивный костюм или что-то вроде того для родственника — потянет еще килограммов на десять.



К длительным свиданиям готовятся не один день. Но бывает всякое, как, например, с Валентиной Олиневич, мамой Игоря Олиневича, сидящего в Новополоцкой колонии. Игорю подписали разрешение на свидание 1 ноября. Свидание было назначено на 19 ноября. В тот же день Олиневич написал маме, но письмо с известием, что надо приехать в Новополоцк 19 числа, Валентина получила только накануне вечером. И что вы думаете — на следующее утро она уже стояла на крыльце колонии со всеми 30 килограммами продуктов "на вынос" и отдельным баулом с домашней едой для всей семьи — папа Игоря тоже ехал на свидание. Подумаешь, за ночь еды наготовить, да передачу собрать, да выехать затемно! Зечки и не на такое способны.

Вале Олиневич я советовала, что и как везти. У меня к тому времени уже был опыт длительного свидания. А до того мне самой помогали куда более опытные зечки. Перед первой поездкой с передачей я записывала инструкции Марины Титовой, чей муж сидит в Новополоцкой колонии уже семь лет. Осталось еще пять. Сколько она отъездила туда и с передачами, и на свидания — уже может с закрытыми глазами собрать-разобрать передачу за 30 секунд, как солдаты — автомат Калашникова. А перед длительным свиданием меня инструктировала зечка Оля, чей муж сидит в Новополоцке третий год. Оля ездит на свидания одна, на своей машине. Парковка вроде и недалеко от ворот колонии, но когда тащишь весь скарб — расстояние кажется гигантским. Будто пешком до Шанхая. Особенно когда начинается наша вечная осенне-зимняя слякоть.

После свидания с сыном Валентина Олиневич написала мне письмо: *"Все равно счастье от общения они нам не испортили, хотя очень и старались. Откуда у этого мальчишки столько мужества? Уму непостижимо. Может быть, просто играл, чтобы меня успокоить. Но нет, такое не сыграешь. Говорит, что уже и не надеялся, что нас увидит. Мы, следуя твоим рекомендациям, сразу пошли на кухню, еду разогревать. Но для него главным было общение. А для меня — дотронуться до него, ощутить теплоту своего сыночка и обнять. Без слез обошлось. Я выходила утром вместе с двумя женщинами, мамами других заключенных. Те вышли в слезах и потом, насколько я знаю, писали заявления в ДИН. Мало того, что их так же тщательно обыскивали, как и меня, так еще и не разрешили их детям взять передачи. Хотя заявления были подписаны заранее. Такого унижения, как они говорили, они еще не испытывали, хотя их дети там находятся не один год. Все это, конечно, посвящалось Игорю, как сказал один из тех ребят, чтобы настроить против него".*

"Обнять сыночка"... Мамы-зечки — это особая категория. Им, мне кажется, еще больнее, чем женам. Муж — это сильный человек, опора, глава семьи. Когда он в тюрьме, это тяжело, но не трагично. А вот ребенок — всегда маленький и беззащитный, даже если ему уже полвека. И если сын в тюрьме — это действительно трагедия. Жены плачут редко. Матери — часто.

Я до сих пор не могу представить, что пережила моя свекровь Алла Санникова, когда мы с мужем оба оказались в тюрьме. Именно ей в ее 78 лет пришлось полгода таскать сумки с передачами и выстаивать по полдня на ледяных ступеньках КГБ. Она живет в доме, где находится кинотеатр "Центральный", — на полпути между "Володаркой" и "американкой". Я помню, как однажды летом мы договорились, что Алла Владимировна в воскресенье заберет моего сына Даню на прогулку. Она пришла с опозданием, что для нее было очень странно. И рассказала, как вышла из дома и, задумавшись, "на автомате" пошла к "Володарке". Только дойдя до тюрьмы и не обнаружив там, как обычно, очереди, она вспомнила, что сегодня воскресенье и нужно идти, вообще-то, в другую сторону и по другому поводу...

Недавно журналисты активно обсуждали тему, кто выиграет, а кто проиграет от роста базовой величины до 100 тысяч рублей. Вспомнили всех, кроме тех, кто действительно выиграет, — осужденных. "Отоварка" в колониях привязана именно к базовой величине: общий режим позволяет отовариваться на шесть базовых величин в месяц, усиленный — на пять, строгий — на четыре. Тем, у кого не погашены иски, дозволены покупки лишь на одну-две базовые в месяц. Нарушителям режима — и вовсе на одну. Что такое отоварка на 35 тысяч — попробуйте себе представить. Включите фантазию: что можно купить на эти деньги, чтоб на целый месяц хватило? Я вам скажу: вот, например, Дима Дашкевич на разрешенные 35 тысяч в декабре купил две пачки маргарина и пакетик конфет. Но конфеты он на последней встрече с адвокатом преподнес в качестве новогоднего подарка адвокату Марине Ковалевской и — через нее — невесте Насте Полаженко.

А теперь Дима сможет покупать на 100 тысяч, то есть в три раза больше. Те же, у кого усиленный и общий режимы без всяких исков и взысканий, — на 500 или 600 тысяч. Да это в сравнении с сегодняшними 175—205 тысячами целое состояние. И часто — четверть зарплаты зечки, которую она теперь будет отправлять ежемесячно в зону. Чтобы муж или сын мог отовариваться на всю положенную ему сумму и ни копейкой меньше. И, кстати, не следует забывать, что в промежутке между арестом и колонией еще следствие и суд, а значит, оплата адвокатских услуг, которые весьма недешевы.

Чем может помочь осужденный своей жене или маме? Враньем, как это делают многие из них. Чтобы жены и мамы не тратили денег, которых и так в обрез, на передачу (а 30 килограммов не один миллион стоит вообще-то), осужденные пишут: "Не вези передачу (не приезжай на свидание), у меня было нарушение режима, и меня лишили права на очередную передачу (свидание)". Это все, что они могут сделать.

Вот к чему приговорены жены осужденных. На них остается дом—дети—быт, зарабатывание денег на адвокатов, передачи, посылки, отоварку, поездки (иногда через всю страну) на свидания, которые часто назначаются в рабочие дни, и приходится брать отпуск без содержания на пару дней, очереди, шмоны, да еще и часто — беготня по инстанциям. Зечки организуют целые сообщества, которые решают добиваться справедливости. Они доводят до истерик ДИН, прокуратуру, Верховный суд — и правильно делают. Потому что слишком многие сдаются сразу и предпочитают не высовываться, чтобы не сделать своему родственнику еще хуже. Но нужно понимать, что хуже не бывает. И бороться за соблюдение прав заключенных и отмену несправедливых приговоров приходится даже с осознанием того, что эта борьба бесполезна. Как говорил Станислав Ежи Лец, "допустим, ты пробьешь головой стену. Ну и что ты будешь делать в соседней камере?". В нашей стране звучит актуально, как нигде. Но если не пробивать головой стену, так и останешься навсегда в своей камере. В тюрьме собственного страха и неверия.

А те, кто все же решается пробить головой стену, — иногда действительно могут что-то изменить. "Как, вы еще не знакомы с женой Александра Бут-Гусаима?" — спрашивала меня "новополоцкая" зечка Оля. Очень жаль, что не знакома. Во многом благодаря усилиям именно этой женщины пожизненный срок Бут-Гусаиму заменили на 17 лет усиленного режима.

Так что пусть декабристки позапрошлого века подвинутся на краешек. Вольно ж им было за мужьями в Сибирь ехать... По 30 кило и больше им тягать не приходилось. Их не шмонали. Им не хамили полицейские чины — тогда это было вообще не в чести. Им не нужно было заниматься "декабризмом" без отрыва от производства. Они не должны были зарабатывать деньги для своих детей и мужей-ссыльных. Они не стояли в очередях с громоздкими передачами, не таскали в тюрьмы телевизоры и вентиляторы, не занимали с раннего утра очередь. Другая жизнь у них была — тоже горькая, но не сравнимая с нашей теперешней.

Так что наши современные белорусские зечки куда "декабристее" утонченных героинь прошлого. Причем они себя героинями не считают. Просто тянут лямку, везут воз, вкалывают за двоих, ну и горящие избы с конями на скаку тоже никуда не делись, просто видоизменились соответственно веку. Я восхищаюсь вами, девочки.

ПЕРАПАЛКА

## Чаргінец і Някляеў пасварыліся з-за Быкава

*Старшыня праўладнага Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец падтрымлівае ідэю прысваення імя Васіля Быкава адной з вуліц Мінска. Але ў тым, што да гэтага часу вуліцы Быкава ў сталіцы няма, ён абвінавачціў былога старшыню пісьменніцкага саюза Уладзіміра Някляева.*

*"Калі б не Някляеў са сваімі палітычнымі лозунгамі па Быкаву, мы б ужо мелі вуліцу Быкава",* — заявіў Мікалай Чаргінец на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

*"Каментаваць заяву Мікалая Чаргінца няма ніякага сэнсу, бо яна ўсялякага сэнсу пазбаўленая,* — заявіў у адказ на абвінавачванні Уладзімір Някляеў. — *То бок: што замінала сенатару (а значыць, чалавеку ва ўладзе) Чаргінцу дамагчыся, каб у Мінску з'явілася вуліца імя Быкава яшчэ да таго, як грамадзянская кампанія "Гавары праўду!" сабрала ў падтрымку гэтага болей за сто тысяч подпісаў? І чаму сярод гэтых ста тысяч подпісаў беларускіх грамадзян, якія патрабавалі ад улады, каб такім чынам было ўганараванае імя найзнакамітага беларускага пісьменніка, няма прозвішча Мікалая Чаргінца?"*

Нагадаем, што Уладзімір Някляеў з паплечнікамі ініцыявалі перайменаванне ў вуліцу Быкава цяперашняй вуліцы Ульянаўскай. Гэтую ідэю мінчане актыўна падтрымалі, а ўлада наўпрост праігнаравала просьбу людзей.

АДРАС

## На «Граніце» ўведзена міністэрскае кіраванне

*Прадпрыемства знаходзіцца ў падпарадкаванні Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, адкуль зараз і будзе весціся кіраванне "Гранітам".*

Пра гэта было заяўлена падчас сустрэчы старшыні Брэсцкага аблвыканкама Канстанціна Сумара і міністра архітэктуры і будаўніцтва Анатоля Нічкасава з прадстаўнікамі адміністрацыі завода.

На думку міністра, да нядаўніх падзей на "Граніце", калі людзі ў знак пратэсту пачалі выходзіць з афіцыйнага прафсаюза, прывялі *"сістэмныя недахопы кіраўніцтва завода ў працы з людзьмі".*

# Вышэйшая адукацыя зноў вырасце ў цане

*У некаторых ВНУ яе кошт можа перавысіць 12 мільёнаў рублёў.*

З 1 студзеня ў краіне на 32,5 працэнта павялічылася тарыфная стаўка першага разраду. Адпаведна вырастуць і заробкі бюджэтнікаў, у тым ліку і прафесарска-выкладчыцкага саставу. Гэта значыць, што плата за навучанне абавязкова павысіцца, бо ў нашай краіне цана ведаў складаецца ў першую чаргу з аплаты працы выкладчыкаў і платы за святло, ваду і г.д, а не вызначаецца, напрыклад, прэстыжнасцю спецыяльнасці, яе запатрабаванасцю на рынку працы.

У Міністэрстве адукацыі гэтую інфармацыю ўжо пацвердзілі, дадаўшы, што зараз вызначаецца прагноз кошту платнага навучання на бліжэйшы час і ўлічвацца будзе не толькі рост тарыфнай стаўкі, але і павышэнне іншых цэн і тарыфаў. Якой стане цана вышэйшай адукацыі, прагназаваць складана. У кастрычніку тарыфная стаўка першага разраду была павялічана на 28 працэнтаў, аднак Міністэрства адукацыі рэкамендавала навучальным установам павысіць кошт навучання не больш як на 25 працэнтаў. І амаль усе ВНУ да прапановы прыслухаліся. Магчыма, так будзе і зараз, бо калі павысіць плату на навучанне на 30 працэнтаў, то, напрыклад, студэнтам стаматалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта прыйдзецца плаціць за навучанне амаль 12 з паловай мільёнаў рублёў! Да 12 мільёнаў можа наблізіцца плата за навучанне на эканамічным, юрыдычным факультэтах БДУ, а таксама на факультэце журналістыкі і міжнародных адносін. Дзе ж браць такія грошы, калі намінальны сярэдні заробак па краіне ў лістападзе склаў 2 мільёны 439 тысяч рублёў, а на рукі людзі атрымалі значна менш?

Увогуле ад пачатку навучальнага 2011—2012 года плата за вышэйшую адукацыю ў Беларусі павышалася ўжо двойчы. Першы раз яна пераглядалася ў верасні 2011 года і ўзрасла ў сярэднім на 20%, другі раз — у кастрычніку-лістападзе (рост склаў 20—25%). Чарговае павышэнне стане трэцім!

### Як раслі кошты на адукацыю ў найбольш прэстыжных ВНУ
*(млн руб.)*

| ВНУ | Кошт навучання на 1 верасня 2010 г. | Кошт навучання на 1 верасня 2011 г. | Кошт навучання на 1 лістапада 2011 г. |
|---|---|---|---|
| БДМУ | 5,4—6,5 | 7,4—7,9 | 8,3—9,7 |
| БДУ | 4,3—5,3 | 5,4—7,5 | 7,7—9,3 |
| БДЭУ | 3,9—4,0 | 4,6—5,0 | 6,0—6,2 |
| Акадэмія кіравання пры прэзідэнце РБ | 3,9 | 6,1 | 7,6 |
| БДУІР | 3,8—4,3 | 5,2—6,0 | 6,7—7,5 |
| БНТУ | 4,1—4,3 | 6,1—6,4 | 6,2—7,6 |
| МДЛУ | 3,5 | 5,0 | 5,9 |

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

І ТАК БЫВАЕ

## То турма пагражае, то прэмія свеціць

*Дырэктар "Бабушкиной крынки" Ігар Кананчук, якому яшчэ нядаўна пагражаў прыгавор за збіццё супрацоўніц, вылучаны на прэмію "Чалавек года".*

Некалькі год таму Ігар Кананчук, будучы ўжо на пасадзе дырэктара малочнага камбіната, абвінаваціў брыгаду сваіх супрацоўніц у тым, што яны скралі малочную прадукцыю. Калі ж жанчыны пачалі даказваць сваю невінаватасць, ён збіў дзвюх, пасля чаго звольніў іх з працы. Па дапамогу жанчыны прыйшлі ў незалежны прафсаюз, які адстойваў іх інтарэсы ў судзе. Былі зняты пабоі. У якасці сведак выступілі іншыя жанчыны. Удзельнік судовага пасяджэння прафесар Валерый Беразіенка адзначае, што тады суд вынес Ігару Кананчуку мяккі прыгавор.

*"Суддзя ўлічыў станоўчую характарыстыку ад кіраўніцтва горада, якое спасылалася на тое, што прадпрыемства пад кіраўніцтвам Ігара Кананчука паказвае добрыя вынікі, і прасіла змякчыць вырак. Таксама ў дырэктара было малое дзіця. І суддзя прапанаваў замірыцца. У выніку жанчыны, якія былі звольнены, атрымалі грошы за перыяд, што не былі на працы, атрымалі кампенсацыю маральных страт і былі адноўлены на працы. Артыкул "Хуліганства" быў перакваліфікаваны на больш мяккі, і дырэктар не аказаўся за кратамі".*

Грамадскі актывіст з Магілёва Аляксей Паўлоўскі тым не менш лічыць, што такі кіраўнік не мае маральнага права прэтэндаваць на прэмію "Чалавек года".

*"Я патэлефанаваў на "прамую лінію" да кіраўніка горада Станіслава Барадаўкі і расказаў яму пра гэтага таміната. Ён сказаў, што нічога не ведае пра гэта і будзе разбірацца з маёй інфармацыяй",* — гаворыць Аляксей Паўлоўскі.

Трэба адзначыць, што акрамя Ігара Кананчука намінантамі на прэстыжную прэмію гарвыканкама сталі яшчэ пяць чалавек.

**Да ведама**

Лаўрэат прэміі "Чалавек года", якая праходзіць у трох намінацыях — "Вытворчая дзейнасць", "Невытворчая сфера" і "Грамадска-палітычная дзейнасць", атрымае ўзнагароду ў памеры 100 мінімальных заработных плат. Акрамя гэтага, імя лаўрэата заносіцца ў "Кнігу славы Магілёўшчыны".

## Вяртаючыся да надрукаванага

У "Народнай Волі" за 10 студзеня 2012 года надрукавана карэспандэнцыя **"Шэсць фактаў па справе Алеся Бяляцкага, пра якія не распавядае БТ і не пішуць у "Советской Белоруссии"**. Пад ёю подпіс — "Праваабарончы цэнтр "Вясна".

І вось тут патрабуюцца тлумачэнні. Як не аднойчы пісалася, у тым ліку і ў "Народнай Волі", Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь па рашэнні суда пазбавіла праваабарончы цэнтр з такой назвай рэгістрацыі. Але, заўважым, на адпаведны сайт, з якога якраз і быў зняты матэрыял, гэтая забарона не распаўсюджвалася. Такім чынам, каб ніхто не меў прэтэнзій да "Народнай Волі", удакладняем подпіс, які пад тэкстам публікацыі трэба чытаць: "Сайт "Праваабарончы цэнтр "Вясна" (www.spring96.org). Вышэйназваны матэрыял сапраўды з'яўляецца перадрукоўкай інфармацыі з дадзенага сайта.

А менавіта як пра незарэгістраваную на сённяшні дзень арганізацыю ПЦ "Вясна" ўзгадваецца ў тым жа нумары "Народнай Волі" ў інфармацыі "Разгляд скаргі Бяляцкага — 24 студзеня".

**Рэдакцыя газеты "Народная Воля".**

## Па-за шлюбам

Кожнае пятае дзіця ў Беларусі нараджаецца ў незарэгістраваным шлюбе. Пра гэта паведаміла чыноўніца Міністэрства працы і сацыяльнай абароны **Марына Арцёменка.**

Па яе словах, беларуская сям'я значна змянілася за апошняе дзесяцігоддзе. У нашай краіне з'явіліся такія тэндэнцыі, як арыентацыя на сям'ю з адным дзіцем, адкладванне нараджэння дзяцей і ўступлення ў шлюб, а таксама рост ліку пазашлюбных саюзаў. У прыватнасці, у 1999 годзе такіх саюзаў было 5—6 працэнтаў, а паводле апошніх звестак — ужо 8 працэнтаў.

## *Лічы, апошнія ў Еўропе*

Інстытут стратэгічных даследаванняў Heritage Foundation супольна з газетай Wall Street Journal апублікавалі штогадовы рэйтынг эканамічнай свабоды ў свеце.

У ім 179 краін ацэньваюцца ў такіх катэгорыях, як свабода гандлю, свабода вядзення бізнесу, свабода інвестыцый, правы ўласнасці.

Першае месца ў рэйтынгу 18-ы год запар займае Ганконг. Беларусь, набраўшы 49 балаў, займае ў рэйтынгу 153-е месца. А вось амаль усе суседзі Беларусі залічаны ў катэгорыі: “Пераважна свабодных” — Літва (23), “Умоўна свабодных” — Латвія (56), Польшча (64), сярод “Пераважна несвабодных” — Расія (144). У “Рэпрэсіўныя эканомікі” разам з Беларуссю трапіла і Украіна (163).

Тым не менш у параўнанні з мінулым годам паказчыкі Беларусі крыху палепшыліся (на 1,1 бала).

Сярод 43 краін Еўропы Беларусь па паказчыках эканамічных свабод заняла 42-е месца.

## *З апарату ўрада сыдзе кожны пяты*

Колькасць работнікаў апарату Савета Міністраў Беларусі павінна паступова паменшыцца на 20%.

Такое рашэнне ўтрымліваецца ў пастанове Саўміна “Аб арганізацыі работы па рэалізацыі пілотнага праекта ў апараце Савета Міністраў”, накіраванага “на павышэнне зацікаўленасці ў выніках працы і замацаванне ў апараце высокакваліфікаваных спецыялістаў”.

Згодна з дакументам, працоўная група павінна да “15 лютага 2012 года выпрацаваць прапановы аб аптымізацыі функцый, структуры і колькасці работнікаў апарату, для забеспячэння паступовага змяншэння да 20% колькасці яго працаўнікоў”.

Памяншэнне колькасці работнікаў павінна быць забяспечана на працягу 2012 года, “у тым ліку — за кошт вызвалення пасад работнікаў, звольненых у сувязі са сканчэннем тэрміну дзеяння кантракту, адстаўкай, па дамове бакоў і іншых падставах”.

Як адзначаецца ў пастанове, рабочай групай будзе вывучана магчымасць правядзення аналагічнага пілотнага праекта па скарачэнні штатаў у двух-трох рэспубліканскіх органах дзяржаўнага кіравання, а таксама мясцовых выканаўчых і распарадчых органах.

## *Адных скароцяць, каб даць заробак другім*

Кіраўнік Віцебшчыны абяцае заробак у 500 долараў да канца года. Пра гэта Аляксандр Косінец заявіў на селектарнай нарадзе ў аблвыканкаме.

Зараз, па звестках Косінца, сярэдні заробак у вобласці складае 280 долараў. Акрамя таго, Косінец запатрабаваў да канца года павялічыць прадукцыйнасць працы ў два разы.

У дадатак старшыня аблвыканкама загадаў правесці скарачэнне штату на прадпрыемствах і ў арганізацыях, а таксама заявіў, што да канца года на Віцебшчыне не павінна застацца стратных прадпрыемстваў.

## *Эпидемия гриппа может начаться уже в январе*

В этом сезоне, по словам специалистов, будут циркулировать те же разновидности вируса гриппа, что и в прошлом.

А в прошлом году, как известно, страна “гripповала” достаточно спокойно. В этом сезоне специалисты также прогнозируют эпидемию гриппа средней интенсивности. По словам главного эпидемиолога Министерства здравоохранения **Инны Карабан,** эпидемия может начаться в конце января — начале февраля.

На данный момент в Беларуси заболеваемость острыми респираторными инфекциями находится на неэпидемическом уровне. Сейчас в стране ОРИ болеют в основном дети, чуть реже — взрослые. В то же время число заболевших за последние дни среди них несколько увеличилось.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# Астрашыцкі «Сталінград»

***Мінулым летам “Народная Воля” расказала пра дзікі факт нашай рэчаіснасці: пад бокам лукашэнкаўскай рэзідэнцыі ля Астрашыцкага Гарадка (за якія 800—900 крокаў) прытуліўся самы грандыёзны ў краіне даўгабуд — сапраўдны помнік безгаспадарчасці. Ну проста эталонны экзэмпляр...***



Нагадаю храналогію брутальнай эпапеі. Пачалося ўсё яшчэ пры камуністычным рэжыме... 14 лютага 1987 года выйшла **Пастанова ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР за №213 “Аб паляпшэнні ўмоў дзейнасці творчых саюзаў”.** Праз два месяцы беларускія ўлады канкрэтызавалі крамлёўскае распараджэнне, перанёсшы ягоныя палажэнні на беларускую глебу. І 29 красавіка на свет з’явілася ўжо **Пастанова ЦК КПБ і Савета Міністраў Беларускай ССР №163 “Аб мерах па выкананні Пастановы ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР ад 14 лютага 1987 г.”.** Што цікава, яшчэ праз чатыры гады (28 сакавіка 1991 г.) беларускі ЦК партыі сумесна з Саветам Міністраў унёс некаторыя змены і дапаўненні ў вышэйзгаданую Пастанову №163. Дакумент падпісалі Сакратар ЦК КПБ Я.Сакалоў і Старшыня Савета Міністраў М.Кавалёў. Сярод мноства пунктаў гэтага дакумента, скіраванага на “паляпшэнне ўмоў дзейнасці творчых саюзаў”, да Астрашыцкага Гарадка непасрэднае дачыненне меў толькі адзін — пяты пункт... Вось ён:

***“Белсельбуду, Саюзу кампазітараў БССР забяспечыць у 1988 годзе ўвод у эксплуатацыю Дома творчасці “Астрашыцкі Гарадок”.***

Што тут скажаш?.. Ідэя была разумнай і нават высакароднай — пабудаваць Дом творчасці для кампазітараў і музыкантаў. Каб маглі яны ствараць свае опусы, музіцыраваць, ладзіць вечарыны ўдалечыні ад гарадскога тлуму. Нармальная практыка, асабліва ўлічваючы тое, што, трынькаючы на раялі ў панэльнай кватэры, не мелодыю прыдумаеш, а ворагаў-суседзяў нажывеш...

Карацей, тагачасная ўлада пайшла насустрач беднаму — у прамым сэнсе слова — Саюзу кампазітараў: выдзеліла (на парытэтных пачатках з Саюзам кампазітараў СССР) фінансавыя сродкі, немалую плошчу зямлі паблізу Вячынскага вадасховішча, зацвердзіла праект, вызначылася з падрадчыкам і... работа закіпела. Неўзабаве заклалі падмуркі васьмі дамоў-катэджаў, узвялі цагляныя сцены, падвялі падземныя камунікацыі, падпёрлі неба бетоннай воданапорнай вежай... Здавалася, усё ідзе па плану, ніякіх перашкод не прадбачыцца. А тут і першы прэм’ер-міністр РБ Вячаслаў Кебіч, які замяніў на пасадзе Міхаіла Кавалёва, даў заруку Ігару Лучанку: маўляў, не хвалюйся, усё будзе завершана ў поўнай адпаведнасці з планам.

Але, як кажуць, нядоўга музыка іграла... Камуністычна-савецкая імперыя дала дуба, у Беларусі набліжаліся выбары першага прэзідэнта незалежнай і суверэннай дзяржавы. Жарсці кіпелі яшчэ тыя! Чым усё скончылася, ведама кожнаму: з двух палітычных мастадонтаў верх узяў маладзейшы... Як прыйшоў да ўлады Рыгоравіч, то астрашыцкай будоўлі настаў трындзец, яе папросту замарозілі. Затое непадалёку ад “замарожанага” дома пачалі борздзенька ладзіць рэзідэнцыю першага прэзідэнта. Тут, канечне, управіліся хутка...

## «Маўчанне ягнят»

Мінaлі гады, пяцігодкі, многае памянялася ў жыцці суверэннай дзяржавы. І толькі дзве канстанты беларускай рэчаіснасці застаюцца непахіснаўстойлівымі: астрашыцкі даўгабуд і доўгатэрміновы прэзідэнт разам з астрашыцкай рэзідэнцыяй. Можна сказаць, у непасрэднай блізкасці адзін ад другога палягаюць. Розніца, праўда, як неба і зямля...

Летась знаёмы музыкант, член Саюза кампазітараў, запрасіў мяне на экскурсію ў ваколіцы Астрашыцкага Гарадка. Канечне, ні рэзідэнцыю пёрла яму паказаць (туды народу ўваход забаронены), а той самы Дом творчасці Саюза кампазітараў, які ну проста спаганьвае акаляючы ландшафт, дыскрэдытуе, можна сказаць, саму інстытуцыю прэзідэнцтва. Хіба можна ўявіць, каб пад носам першай асобы, за якія васямсот крокаў ці нават і далей крыху, было такое паскудства — сапраўдная смярдзючая клаака?! Але ж не выдумка, а ўсім бачны факт. Пасля той экскурсіі як было не падаць востры сігнал праз газету?.. Улетку “Народная Воля” і надрукавала адпаведны матэрыял пад рубрыкай “**Дзікунства!”.**

Калі хто з “прэзідэнцкай інстытуцыі” прашляпіў, не прачытаў, нагадаю леташняе:

“*І вось мы на месцы... Сярод прылеску, побач з дачнымі пасёлкамі “Сябры” і “Атам” — высозная жалезабетонная агароджа з намазюканымі каляровымі графіці. Ні варот, ні брамкі — адно чорны ўваход-лаз. Пранікаем у сярэдзіну “аб’екта”. Хоць на дварэ і сонечна, але тут — поўны змрок. За паўтара дзесяцігоддзя хмыз вымахаў вышэй галавы, трава па пояс, павырасталі і асіны з ельнікам, пераплявіся кронамі на пакручастым пагорку. Амаль навобмацак ступаем на сцяжыну, якая (калі меркаваць па бетонных бардзюрах) павінна была стаць цэнтральнай алеяй. Але бардзюры невядома хто і калі павыварочваў, на іх — у таўшчыню далоні — мох... Па баках гэтай зарослай хмызняком “алеі” — чырвонацагляныя, паўразбураныя, з чорнымі праёмамі (замест акон і дзвярэй) дамы... На імгненне здалося, што патрапіў у Чарнобыльскую зону, дзе поўнае запусценне па вядомай усім прычыне. Але ж гэта не зона...*

*Прабіраемся скрозь яліны і павуціенне далей. Вось і першы дом: на два паверхі, з цокальным памяшканнем, нават з уцалелым дахам. Але ўсё насцеж, бруд несусветны, цэгла патрушчылася. Уваходзім у чорны дзвярны праём і затыкаем насы ад смуроду: гніль, цвіль, вільгаць. Лесвіца паўразваленая, без поручняў — страшна ступаць; дол усланы камянюкамі, бітай цэглай — быццам Мамай прайшоў. Не, падымацца вышэй — небяспечна. Выходзім.*

*Па правы бок яшчэ адзін недабудаваны — ці то катэдж, ці то міні-гатэль... Карціна тая ж, калі не больш жахлівая. Па-першае, у гэтай халабуды і даху няма. З-за таго, мусіць, цагляныя сцены ў падцёках, сырыя, напалову вышчарбленыя. Такім і тынкоўка наўрад ці дапаможа. А ў сярэдзіне гэткае ж страхоцце, як і ў першай будыніне, — горы друзу, смецця, апарожненых бутэлек з-пад гарэлкі, піва ды іншых напояў, якія некалі і некаму прыносілі кайф. Каб не гэты посуд, то магло падацца, што ты ў нейкіх забытых Богам і закінутых людзьмі казематах... Тут і кіно можна здымаць. Пра вайну...*

*Але — працягваем “экскурсію”. На лясістай выспе — самы вялікі дом, верагодна, тут якраз мусілі збірацца музыканты, каб лашчыць слых чароўнымі мелодыямі — у вялікай зале, ля ўтульнага каміна ці, можа, яшчэ як. Замест камернай залы, каміна і ўсяго астатняга — ушчэнт пакарабаныя сцены, разваленыя лесвіцы, мох на падаконніках і перакрыццях, а дах і наогул адсутнічае, адно стромкі франтон падпірае сінь неба. Гіблае месца! Сюды і заходзіць страшнавата — можна лёгка зламіць цагліну ўласным “кумпалам”. Наўкол — аўгіевы канюшні...*



ПОСТАНОВЛЕНИЕ ЦЕНТРАЛЬНОГО КОМИТЕТА КОММУНИСТИЧЕСКОЙ ПАРТИИ БЕЛОРУССИИ И СОВЕТА МИНИСТРОВ БЕЛОРУССКОЙ ССР

29 апреля 1987 г. № 163

О МЕРАХ ПО ВЫПОЛНЕНИЮ ПОСТАНОВЛЕНИЯ ЦК КПСС И СОВЕТА МИНИСТРОВ СССР ОТ 14 ФЕВРАЛЯ 1987 г. № 213 "ОБ УЛУЧШЕНИИ УСЛОВИЙ ДЕЯТЕЛЬНОСТИ ТВОРЧЕСКИХ СОЮЗОВ"

[Изменения и дополнения: Постановление Совета Министров БССР от 28 марта 1991 г. N 118

Во исполнение постановления ЦК КПСС и Совета Министров СССР от 14 февраля 1987 г. № 213 "Об улучшении условий деятельности творческих союзов" Центральный Комитет Компартии Белоруссии и Совет Министров Белорусской ССР постановляют:

...

**5. Белсельстрою, Союзу композиторов БССР обеспечить в 1988 году ввод в эксплуатацию Дома творчества "Острошицкий городок".**

...

*Шмат за сваю практыку набачыўся розных даўгабудаў, але такі “свінарнік” сустракаю ўпершыню. І дзе?! У найпрыгажэйшым куточку Міншчыны, дзе зямелька, дарэчы, вельмі дарагая. Але ж прападае — усё прахам...*

*Караскаючыся да воданапорнай вежы, ледзь не загрымеў у бетонны калодзеж — люк адчынены, а там — на глыбіні — іржавыя венцілі, розныя заглушкі... І такіх люкаў на тэрыторыі шмат, на некаторых папераджальныя чырвоныя стужачкі: маўляў, асцярожна, прахожы, глядзі пад ногі! З убачанага вынікала, што пад зямлёю водаправод і цэлая каналізацыйная сетка — хоць і не ў рабочым стане.*

*А вось і сама воданапорная вежа — бетонная, высокая, ну проста Эйфелева! Адна бяда — недаробленая. Велізарная металічная ёмістасць, падобная на касмічны карабель “Апалон-12”, іржавее ля бетоннай асновы. А як бы хораша глядзелася на вышыні...*

*Далей не было сэнсу працягваць “экскурсію” — хацелася бегчы з тае “зоны”, дзе ўсё пратухла смуродам і гніллю...”*

Думалася, што пасля нашай публікацыі (5—7 ліпеня 2011 г.) “вертыкаль” калі не размарозіць “славуты” даўгабуд, то хаця б прачнецца, неяк адрэагуе на вострыя сігнал. Як-ніяк, а сотні мільёнаў рублёў ляснуліся, ды не якіх-небудзь халяўных, спонсарскіх, а ў пэўнай ступені і нашых з вамі — падаткаплацельшчыкаў. У свой час кіраўнік Беларусі Пётр Машэраў за такое “гаспадаранне”, за падобныя хібы (калі здараліся) тры скуры здымаў з чыноўнікаў — не цырымоніўся. А як зараз? Памятаю, як гады чатыры таму Лукашэнка заклікаў усю сваю раць навесці парадак на зямлі, асабліва на прылеглых да сталіцы тэрыторыях. Тут жа гарадскія і абласныя “вертыкальшчыкі” кінуліся аблётваць тыя тэрыторыі, выглядваючы з верталёта самае непрывабнае ўнізе. Лёталі-лёталі, ды так і не разгледзелі астрашыцкі “Сталінград”, а можа, зрабілі выгляд, што не разгледзелі... Тут, як ні кумекай, да праўды не дапнеш: у лепшым выпадку — сцяна маўчання, у горшым — бравурны “марш энтузіястаў”... Карацей, наша публікацыя ніяк не праняла, не разварушыла чыноўніцкае балота: ні старшыню Камітэта дзяржаўнага кантролю **Аляксандра Якабсона**, ні старшыню Мінскага аблвыканкама (а цяпер яшчэ і генерала) **Бырыса Батуру**, ні тагачаснага Генеральнага пракурора РБ **Рыгора Васілевіча**, ні старшыню Мінскага райвыканкама **Пятра Ярмаша** — нікога-нікога... Ну проста “маўчанне ягнят”. Відаць, упарыліся, бедныя, шукаючы, дзе які дачнік халупу недабудаваў ці тыя соткі не апрацаваў... Тут уся прэзідэнцкая раць напагатове, і ў той жа час выканае ўказ №520, падпісаны нядаўна А.Лукашэнкам. Варта нагадаць, па згаданым указе з 1 сакавіка 2012 года чыноўнікі на месцах фактычна атрымліваюць права амаль бясплатна адабраць любы зямельны надзел, калі яго ўласнік на мае фінансавай ці фізічнай магчымасці на працягу трох гадоў дабудаваць жылы дом альбо дачу. Тут ніякай цягамоціны не прадбачыцца. А вось узяць на сябе адказнасць ды разабрацца з “астрашыцкім феноменам” — чаму ўжо колькі гадоў рушыцца будоўля, чаму не кансервуецца, куды падзеліся выдзеленыя дзяржаўныя сродкі, хто канкрэтна вінаваты, якое пакаранне павінен панесці — тут у нашых высокапастаўленых кішка тонкая.

## «Грошы прапілі, прагулялі, а расследаванне не правялі»

Так, паўгода мінула з моманту нашай публікацыі, але яснасці не прыбыло. Ніводзін “дзяржаўнік” не адгукнуўся, ніякі кантрольны орган, ніякі раённы чыноўнік і ніякі генерал-губернатар. Усім і ўсё “да лямпачкі”. Праўда, знайшоўся адзін чалавек, якога ўся гэтая гісторыя па-сапраўднаму кранула, — **Ігар Міхайлавіч Лучанок**. Патэлефанаваў, потым мы сустрэліся і ўсё як мае быць абмазгавалі. Кіраўнік Саюза кампазітараў, вядомейшы кампазітар і музыкант быў узрушаны і ўсцешаны тым, што “Народная Воля” прабіла сцяну маўчання, агучыла набалелую, у першую чаргу для яго самога, праблему. “*Напісанае вамі,* — сказаў ён, — *жывая праўда. Праўда, што добрую задумку — стварыць для Саюза Дом творчасці — зганьбілі,ператварылі ў нішто. А чаму? Тыя, хто адказваў за будоўлю, фактычна раскралі і грошы, і будматэрыялы. Прапілі, прагулялі... На добры лад, дык трэба было б правесці расследаванне, дакапацца да ісціны. Былі ж людзі, якія адказвалі за праект, за саму будоўлю... Можа, нават нагрэлі рукі, а цяпер пасміхаюцца... Не, гэта пакідаць проста так нельга, трэба, каб улада прыслухалася, знайшла вінаватых. Спадзяюся, што так і будзе...”*

Сам Ігар Міхайлавіч, па яго ж словах, як чалавек творчы, наўпрост не меў дачынення да будоўлі — яе курыравалі спецыяльна прызначаныя людзі. Ну і дакурыраваліся...

Дзеля аб’ектыўнасці варта адзначыць: не бывае так, каб старшыня Саюза кампазітараў цалкам адхінуўся ад распачатай ім справы. Старшыня Саюза на тое і галава, каб апекавацца ўсім, што датычыцца жыцця Саюза. Тут не можа быць двух меркаванняў: Аляксандр Рыгоравіч адказвае за ўсё, што дзеецца ў краіне, а Ігар Міхайлавіч — за тое, што адбываецца ў Саюзе кампазітараў... Значыцца, павінен быў трымаць руку на слабым будаўнічым пульсе астрашыцкай будоўлі. Але — па ўсім — музыка ўзяла верх...

Як будзе далей з “астрашыцкім даўгабудам” — на даны момант нікому і нічога не вядома. Нават старшыні Фонду Саюза кампазітараў **Віктару Войціку**, які ўвесь гэты час курыраваў і каардынаваў будоўлю. На тыдні ўдалося пагаварыць з ім (па тэлефоне) пра набалелае. Віктар Антонавіч — вядомы кампазітар, педагог, прафесар, лаўрэат і г. д. — прызнаў, што будаўніцтва Дома творчасці даўно зайшло ў тупік і што склалася патавая сітуацыя. Іншымі словамі, ён не бачыць выхаду, акрамя таго, як найхутчэй завяршыць працэдуру ліквідацыі самога Фонду, і забыцца на ўвесь гэты кашмар. Па ягоных словах, апошняя спроба прыцягнуць увагу ўлады да незавершанага будаўніцтва была ў 2003 годзе. Тады ліст за подпісам Ігара Лучанка быў адпраўлены на імя **Галіны Жураўковай**, кіраўніка спраў лукашэнкаўскай адміністрацыі. *“Мы хацелі дамагчыся яснасці, пэўнасці з нашым даўгабудам,* — расказвае ён, — *каб яго ці закансервавалі, ці выставілі на аўкцыён, ці перадалі на баланс іншаму ўласніку. Але Жураўкову неўзабаве арыштавалі, і пра наша пісьмо забыліся. А тут яшчэ адна замінка: акт на землекарыстанне, выдадзены нам у савецкі час, мы не змаглі своечасова перарэгістраваць. У выніку Фонд Саюза кампазітараў так і не ўступіў у правы ўласніка на зямлю, цяпер — па факце — Саюз кампазітараў ніякіх адносін да Дома творчасці наогул не мае”.* Праўда, як удакладніў спадар Войцік, не так даўно яму патэлефанавалі з Адміністрацыі прэзідэнта. *“Прапанавалі ўзяць-такі астрашыцкую незавершанку на баланс Фонду,* — кажа Віктар Войцік. — *Але каму патрэбны галаўны боль, ды яшчэ цяпер, калі ажыццяўляецца юрыдычная працэдура ліквідацыі самога Фонду?..”*

Пад канец размовы запытаў у Віктара Антонавіча, ці ведае ён, у якую суму абышоўся астрашыцкі даўгабуд дзяржаве, падаткаплацельшчыкам, Фонду СК? Але на гэтае пытанне куратар будоўлі з боку заказчыка (Саюза кампазітараў) так і не здолеў уцямна адказаць. Зразумець можна: столькі часу прайшло, столькі розных дэнамінацый, дэвальвацый, інфляцый... Хіба ўспомніш?! “*Канечне,* — гаворыць ён, — *недзе ў падвале арандаванага Сюзам дома захоўваюцца бухгалтарскія кнігі, роўна як і праектная дакументацыя. Але дзе гарантыя, што ўсё гэта не пагрызена мышамі?..”*

***

...Позняй восенню, лічы ў зазімак, зноўку наведаў Астрашыцкі Гарадок, зазірнуў у “зону”, так бы мовіць... Падумалася: раптам убачу нешта жывое, прыкладам, людзей на будпляцоўцы, як яны там увішна месяць бетон, ці яшчэ што. Але карціна кінулася яшчэ больш змрочнай, чым улетку: шэрань, чорныя аканіцы, паўразваленыя сцены, горы смецця і бітай цэглы... Відаць, так выглядаў Сталінград пасля нямецкай аблогі, але ж то была вайна, а тут... Ніякай страляніны і бамбёжак, а “Дом Паўлава” — вось ён, перад вачыма... І пагорак перад трохпавярховай, не ўвенчанай дахам, будыніны — нібы “Мамаеў курган”... Па-ранейшаму ля воданапорнай вежы покатам ляжыць велізарная металічная ёмістасць, падобная на касмічны карабель, — іржавая, але ўсё яшчэ не дзіравая. Яна так і не дабралася на верх бетоннай вадакачкі. Паўсюль каналізацыйныя люкі, ачэпленыя папераджальнымі стужкамі...

Далей не было сэнсу аглядаць увесь гэты бардак — хацелася на прастор, падалей ад “зоны”, дзе ўсё пратухла смуродам і гніллю. А магло ж быць зусім па-іншаму, калі б высокія начальнікі сапраўды дбалі пра наводзенне парадку, а не пускалі пыл у вочы... Можа, чакаюць чарговага ўказа?.. Ці іх настолькі пераклініла, што на свой розум і не разлічваюць — толькі на “бацькаў”?..



**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

ТАК ДУМАЮ

## Мы сами иногда не хотим даже пальцем пошевелить!

*Нам нужно научиться говорить правду, какой бы горькой она ни была...*

Знаете, был бы я помоложе — поднял бы движение за коренные социальные преобразования в стране! Но, к сожалению, мое время ушло... Возможно, в нашей стране многие думают так же.

Почти ежедневно газеты пестрят заголовками, извещающими о грядущих изменениях в денежной, социальной и законодательной сферах. Но мы по-прежнему сталкиваемся с социальной несправедливостью, с продолжением губительного роста цен, с загрязнением окружающей среды, с предвзятостью правоохранительных органов. Все это вызывает у людей не только разочарование. Те, кто у власти, вроде бы и пытаются достичь изменений самыми разными способами: и с помощью выборов, и с помощью капиталовложений, и внесения поправок в законодательство, и даже с помощью силовых методов, ***но жизнь рядового человека не улучшается!*** Проблемы, конечно, не могут оставлять всех людей равнодушными. Некоторые стремятся побудить общество пересмотреть свои взгляды на нашу действительность. Они не просто встают в оппозицию, но предлагают свои идеи по преобразованию той или иной сферы общественной жизни. Но что касается оппозиции, то не могу понять: чего они действительно хотят? Блага для народа или личной выгоды? Много обещаний, а толку... Думаю, если бы они хотели блага для народа, то искали бы точки взаимодействия с властью. А у нас пока получается, что господа ссорятся, а простой люд страдает. Не дело это!

Медленный темп на пути к реальным преобразованиям в стране, на мой взгляд, объясняется, в том числе, и безразличием, пассивностью самой общественности.

Временами, когда может совершиться что-то неординарное, даже в рамках закона, большинство из нас не хотят даже пальцем пошевелить!

И еще я думаю, что нам всем нужно научиться говорить правду, какой бы горькой она ни была, иначе вскоре люди никому и ни во что верить не будут.

**С уважением —**

**Юрий ЯСИНСКИЙ,
ветеран труда и спорта,**

*Минск.*

ЧИТАТЕЛЬСКИЙ РАЗГОВОР

## Давайте!

*“Давайте поговорим о предстоящих выборах”.*

**Виктор БОЛДИН, пенсионер Министерства обороны**
*(“Народная Воля”, 30.12.2011 г.)*

Распрекрасный белорусский народ! Самые красивые девушки, женщины и бабушки в мире! Самые умные и трудолюбивые мужчины во всей Вселенной! Вы получили то, что хотели, — пожизненный срок!

Что вы теперь спрашиваете друг у друга: “Идти или не идти на выборы?” Можно идти, можно не идти. За вас все уже продумали, просчитали варианты. Результат будет тот, что нужен тем, кому он нужен. Все уже отработано годами. Безумству храбрых поем мы славу, но о безумстве героев, идущих с гвоздем в атаку на бронепоезд, ничего не хочется ни петь, ни говорить. Раньше надо было думать, желательно головой. Дадут вам снова по 500 у.е. перед выборами, водку с “чернилами” по цене минеральной воды в школьные буфеты завезут, пенсионерам бесплатный проезд в экспрессе “Минск—Ждановичи” (через Египет) устроят, не говоря уж о “Рио-де-Чижовка—Нью-Комаровка”, — и заголосите дружно: “Чаму ж нам не пець?..”

Девушки в национальных костюмах ногами застучат, парни в вышитых сорочках запоют: “Ой, мой Минск, моя столица!..” Детишки будут зомбировать: “Жыву ў Беларусі і тым ганаруся!”

И “ганарыцца” нам еще долго-долго: такая жизнь многим нравится (78 процентов всегда наберется), а кому не нравится, те давно уже далече. Нечего зря головы ламать.

**С уважением к редакции —**

**Татьяна Константиновна
КАРЕЛИНА.**

**P.S.** Личный вопрос: не подкинули ли вам наши нью-белорусы гуманитарной помощи в виде рекламы? Президент ведь разрешил!

### ОТ РЕДАКЦИИ

**Нет, Татьяна Константиновна, не подкинули. Но мы ждем. И надеемся, что “Народная Воля” принесет большую помощь рекламодателям.**

РЕЗОНАНС




## Не забудем, не простим

Прошло уже 20 дней после таинственного происшествия, случившегося в столице Беларуси с представительницами украинского движения Femen. После акции у здания белорусского КГБ украинки оказались в приграничной зоне, в лесу, остриженные и облитые зеленкой. То, что рассказывали девушки о своих похитителях, вызывает только ужас и омерзение.

Тем не менее белорусские правоохранители поспешили всего лишь убедить всех в своей непричастности к произошедшему. Например, председатель КГБ Вадим Зайцев заявил: *“Наши люди их не трогали, как бы этого кому-то ни хотелось”*.

Однако открытым остается вопрос: “Кто?!” Кто может в столице Беларуси организовать поиск трех девушек в большом городе, похитить их прямо на автовокзале, прослушивать телефонные разговоры, въехать без страха быть остановленным в приграничную зону?.. Ответов на эти вопросы до сих пор нет. Правоохранители не проявили в расследовании инцидента ни энтузиазма, ни оперативности. Именно поэтому активистки Femen считают, что к произошедшему причастны белорусские спецслужбы, и грозят им новыми акциями. Однако первыми, на кого обещают направить свой гнев феминистки всего мира, видимо, станут белорусские дипломаты. Поскольку не проведено должного расследования и виновные в произошедшем не найдены, Femen не намерена прощать издевательств над подругами.

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# Калі бракуе сораму...

Сорам не дым, вочы не выесць. Я ўсё больш пераконваюся, што гэтая прыказка асабліва тычыцца многіх чыноўнікаў. Самае дзіўнае, што яны перакананыя: іх дзеянні, учынкі — гэта адзіна высакароднае, правільнае, ідзе людзям на карысць. Вось прыклад, магчыма, нечаканы.

Маладзёжная зборная Беларусі па футболе на чэмпіянаце Еўропы заняла прызавое месца. За яго належыць адпаведнае ўзнагароджанне. Вядома, у валюце. Аднак чыноўнікі разважылі інакш — выдалі грошы ў беларускіх рублях па курсе Нацыянальнага банка. Абыдуцца, вырашылі чыноўнікі. А што будзе з тымі беларускімі грашыма — можа, “зайчыкі” не толькі “схуднеюць”, а і ўвогуле ляснуць, — мудрацоў не хвалюе.

У свой час чыноўнікі ўсіх рангаў дужа хваліліся, што пенсіянеры маюць ільготы на набыццё лекаў, праезд у гарадскім транспарце. Але ж знайшліся ўладныя кіроўцы, хто палічыў такі парадак непарадкам. Вынеслі пытанне на сесію ў “палатку”. А там “слугі народа” дружна прагаласавалі за адмену льгот не толькі пенсіянерам, але і “афганцам”.

Адна з уласцівасцяў нашага (лічы, савецкага) чыноўніка — нежаданне бачыць рэальнасць, няўменне аналізаваць. І... нястрымная бессаромнасць. Узяць хоць бы Героя Беларусі Пятра Пракаповіча, нядаўняга галоўнага банкіра краіны. Не адзін год эканамісты, палітолагі, палітыкі даводзілі яму, што курс Нацбанка няправільны, шкодны. А ён не адзін год даводзіў, што ўсё будзе ў парадку. А давёў да дэвальвацыі, ды яшчэ якой небывалай. Не ён адзіны, канечне, вінаваты. Былі і вышэй за яго, хто з такой “ружовай” упэўненасцю хлусіў свайму народу, даваў неапраўданыя абяцанкі-цацанкі, што дэвальвацыя-інфляцыя нас абміне. А што маем? Народ жа ў выніку і аказаўся вінаваты, бо ён “несвядома” скупляў грэчку, алей, цукар і г.д. А тое, што долар скокнуў угору — не дастаць, што народ абкрадзены, — гэта так сабе, дробязі, не вартыя асаблівай чыноўніцкай увагі.

Як людзям жыць? Тым жа пенсіянерам. Да прэзідэнцкіх выбараў сярэдняя працоўная пенсія была 614 тысяч (каля 200 долараў). Цяпер у доларавым вымярэнні — куды менш. Дасягненнем можна ганарыцца! З экранаў тыя ж, што і раней, гэтак жа бессаромна сцвярджаюць, што беларускія пенсіянеры ледзь не самыя шчаслівыя на планеце.

Самы просты падлік паказвае: пры сённяшняй інфляцыі, каб захавалася ранейшая пакупніцкая здольнасць, сярэдняя пенсія павінна складаць мінімум 1.500.000 рублёў. Ці многія такую бачаць? І ніякія выкрутасы дзеля пераконвання простага чалавека, што ён пасля ўсяго фінансава-эканамічнага вэрхалу пашчаслівеў, не дапамогуць. Нават 500 тысяч “на капусту” не дапамагаюць.

— Падачка, мізэр, — кажуць людзі.

А афіцыйная статыстыка па-ранейшаму хлусіць! Чуў, што за мінулы год цэны на прадукты павысіліся... на 20 працэнтаў. Якая казуістыка! Прапаную пару параўнанняў: калі мяса раней каштавала каля 15 тысяч за кілаграм, то цяпер — 50—60, сыр цвёрды — адпаведна 24 і 60 тысяч, сырок глазураваны — 700 рублёў і 2 тысячы і г.д. Так амаль па ўсім. У два-тры, а то і ў чатыры разы ўсё стала даражэй, а не на тыя працэнты, што дае афіцыйная статыстыка. Яна заўсёды была хлуслівая, а цяпер і зусім ніякага сораму.

Ды адкуль яму ўзяцца? Забралі, скажам, Ваньку з вёскі Вялікая Гразь у салдаты. Прывучалі слухацца без пярэчанняў. Дэмабілізаваўся, а на радзіму вяртацца не пажадаў. Пайшоў у міліцыю. Зноў слухаецца. Сказалі біць дэманстрантаў — б’е. А што? Добра плацяць, ды і спадабалася біць усялякіх там прафесараў, студэнтаў — надта ўжо вучоныя!

За спіны такіх ванькаў схаваўся чыноўнік. Яму ўтульна за імі. Сваволіць можна колькі хочаш. Яшчэ з савецкіх часоў у большасці начальства грэблівае стаўленне да скаргаў грамадзян. Я добра вывучыў гэтую схему на сабе. Вашу скаргу з Адміністрацыі прэзідэнта перашлюць у аблвыканкам, адтуль — у райвыканкам, а з яго — у нейкую кантору, якраз у тую, на якую вы скардзіліся. Чыноўнік пасміхаецца, сумленне і сорам яго не грызуць (бо іх няма). І разарваць гэтае зачараванае кола практычна немагчыма. Адказ на сваю скаргу вы атрымаеце здзеклівы: вам доўга і нудна пералічаць розныя законы-пастановы, а канкрэтна нічога не скажуць і не дапамогуць.

Куды ні сунься, амаль усюды — абмежаванні, забароны. І большасць — бязглуздыя, нядобрыя.

Лукашэнка на адной з прэс-канферэнцый для расійскіх журналістаў заявіў, што ён не прыхільнік таго, каб жанчына стала прэзідэнтам альбо міністрам абароны, бо гэта не жаночая справа, міністр абароны ў спадніцы выглядае смешна. Нам застаецца толькі пазайздросціць тым краінам, якія маюць і мелі на самых высокіх пасадах такіх жанчын, як Гандзі, Тэтчар, Меркель і іншыя.

Сорам, сумленне — катэгорыі маральныя. Яны — вынік і прыродных якасцяў чалавека, і выхавання, і асяродку, у якім жыве. Калі недавук Ванька з дубінкай выхоўваецца ў казарме ў духу нянавісці да вучоных, інтэлігенцыі, якая “многа хоча”, то ён звярэе. Застаецца толькі выпусціць такога на плошчу — і “элегантная перамога” над электаратам забяспечана.

Вось ганьбяць латышоў за тое, што яны адстойваюць сваю мову. Як гэта так, заяўляюць нам з абурэннем, — у краіне, маўляў, жыве нямала рускіх, то чаму навучанне не пераводзяць на рускую? А чаму, скажыце, павінны гэта рабіць? У Германіі, напрыклад, сем мільёнаў туркаў, але ж школы не пераводзяць спрэс на турэцкую мову. А на беларускім тэлебачанні (сорамна называць яго беларускім) узяліся горача апякоўваць рускую мову, хаця ў Беларусі свая, беларуская, у поўным заняпадзе, на мяжы знішчэння.

Ці ёсць хоць кропля сораму, кропля сумлення ў такіх? Сумнавядомы Яўген Новікаў, да прыкладу, гледзячы ў вочы тысячам тэлеглядачоў, даводзіць: ды няма ў нас пастаянных парушэнняў правоў чалавека, збіцця пратэстуючых, несправядлівых прысудаў, і “глоголет” аб самым дэмакратычным беларускім рэжыме. Гэта ж трэба так не паважаць сябе! Не паважаць усіх нас!

І калі мы, народ, маўчым, не выказваем услых свае думкі аб усім, што нам баліць, не дае дыхаць, то, выходзіць, мы згодныя з гэтым?

Ці хутка беларускі народ скажа сваё слова?

**Мікалай
ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

З НАТУРЫ

## Мільянер з Абыціхаўкі

*На дзярэўні ўвечары
ля свайго падворка
Гучна на падпітку
выступаў Ягорка:
— Дзякаваць дзяржаве,
добраму ураду —
Ў вёсцы Абыціхаўка
буду я цяпер
Не Ягор бязродны,
як было шчэ ўчора,
А на зайздрасць куму —
ўжо міліянер!*

*Пенсіён цяпер мой
пад мільёнчык будзе.
Гэта вам не тое,
што было раней.
І не лівер
з нейкай гора-балабудай,
А купляць я стану
нешта пасмачней!*

*Так казаў суседзям
Дзязька у той вечар,
Калі мілён свой
у руках трымаў,
І ў хвіліну тую
ад свайго багацця
Ён нічога слухаць
нават не жадаў.
І таму не крочыў,
а ляцеў у краму.
А як цэны ўбачыў —
дык аслупянеў.
Пастаяў у трансе,
плямкаючы нешта,
Зразумеў урэшце:
не буржуй ён, не!
Бо з-за цэн здурэўшых
нічога не варты —
Калі бачыць праўду —
гэты мілён.
І паклыпаў з крамы,
сябе суцяшаючы:
“Багацей” вось гэтакі
Ў іх не толькі ён...*

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ.**

*г.Слаўгарад.*

РОЗДУМ

# Сячкарня і плуг

Наведваюся іншы раз да пункта прыёму другаснай сыравіны. Не дзеля таго, каб нешта здаць, а дзеля таго, каб, калі пашанцуе, набыць. Загадчык пункта, надта прыгожы цыган Рома, дапамагае мне папаўняць калекцыю ланцугоў. Нехта збірае маркі, хто — капейкі. У Рэчыцы ёсць дзівак, што збірае малаткі: бляхара, абутніка, трунара і шмат іншых. Мяне цікавяць ланцугі па 40—50 сантыметраў, маю ладную калекцыю на лецішчы.

Дзівакі ўпрыгожваюць свет! Раскажу і я пра сваё дзівацтва.

У ВКЛ злачынцы не насілі кайданы з ланцугоў і да тачкі іх не прыкоўвалі, як у нашых суседзяў. Але паплечнікі Т.Касцюшкі зведалі кайданы ў расійскім палоне. Сервантэса, закаванага ў кайданы, карсары прама з палубы прадалі ў рабства. Карацей, гэта не проста ланцугі, гэта гісторыя.

Калі за савецкім часам вучням школ даводзілі план па зборы паперы і жалеза, то зараз такога загаду няма: за жалеза добра плацяць, на сметніках шчыруюць бамжы, і хутчэй за Рому. Раз нехта прывёз надта стары плужок з квадратнымі гайкамі: такія гайкі зараз не вырабляюць. Апошнія квадратныя гайкі выраблялі ў Слуцку для зборкі баронак, але на пачатку шасцідзясятых перайшлі на шасцівугольныя. Добры быў гаспадар у плуга, шанаваў, мазаў дзёгцем. Рома не можа такі плужок адправіць на пераплаўку, але кожны дзень выносіць на двор, ставіць каля ўваходу, каб людзі маглі ўбачыць брата хлеба. Хлеб і плуг — блізнюкі-браты!

Неяк наведаў знаёмую сталага веку ў Слоніме — сваю зямлячку. Некалі яна жыла ў суседняй вёсцы, а зараз — у хаце прыватнай забудовы, куды яе забрала гадоў дзесяць таму дачка. Калі дачка і зяць прыехалі забіраць, то Ева (так клічуць знаёмую) запатрабавала забраць швейную машынку з нажным прывадам і сячкарню. Дачка яшчэ разумела пра швейную машынку, можа, які рубец зашыць, а сячкарня?

Сячкарня 1915 года выпуску, германская, у тры нажы надта дробненька рэзала саломку на пракорм кароўкі і коніка, што трымалі да калгаснага жыцця. Калі Ева выходзіла замуж, бацька на пасаг даў коніка і сячкарню, а маці — кароўку і швейную машынку. Не магла Ева пакінуць у вёсцы частку свайго жыцця. З таго часу ў хлеўчыку стаяла сячкарня. Іншы раз дачка чула, як маці размаўляла з сячкарняй, пытала, ці помніць яна, як забіралі коніка ў калгас, як не было чым карміць пад весну кароўку, як рэзалі з дапамогай сячкарні бульбоўнік з чаротам, што на змёрзлым возеры жалі? Як у 1950 годзе галасіла вёска, калі адпраўлялі ў Котлас заможных вяскоўцаў, што не жадалі ўступаць у калгас? Гэта тых, хто ў вайну карміў партызан: гультаям самім не было чаго есці — вось яны першыя і запісаліся ў калгас. Былыя партызаны кіравалі райкамам і міліцыяй, але не абаранілі сваіх карміцеляў. Праз шмат гадоў стала вядома, што з заходніх абласцей Беларусі ў 1950 годзе выслалі на поўнач 1640 сем’яў тых, хто быццам замінаў будаваць калгасны лад жыцця. (Чытайце кнігу “Памяць”.)

Неяк баба Ева занядужала, адвезлі яе ў шпіталь. А тым часам унук палічыў, што баба сваімі нагамі дахаты не прыйдзе і з такім, як сам, латругам адвёз на прыёмны пункт сячкарню. Бог даў Еве адтэрміноўку на сустрэчу, і калі яе прывезлі дахаты, то першае, што яна зрабіла, пайшла ў хлеўчык павітацца. І загаласіла, як па нябожчыку. Доўга дачка і зяць упрошвалі супакоіцца, але з таго часу Ева перастала ўсміхацца.

Толькі адно пакаленне не мела прыватнай гаспадаркі, а гаспадарчая жылка затухла, як свечка на ветры. Дзе будзем браць хлеб, калі прапілі плуг і сячкарню? Па-мойму, гадоў праз пяць вышэй курыцы жывёлы ні ў кога не будзе! Сумна!

**Павел КАРОЛІК.**

*Гомель.*

МУДРАЯ МЫСЛЬ

*Жизнь слишком коротка, и не следует проводить ее, пресмыкаясь перед жалкими негодяями.*

***СТЕНДАЛЬ,
французский писатель.***



*(Прислал в редакцию Геннадий Николаев из Смолевичей.)*

ПАЗІЦЫЯ

## Самае страшнае — жыць у страху

З расповедаў сваіх дзядуль, бабуль і бацькоў ведаю: яны ўсё жыццё пражылі ў страху. І не толькі перад уладным чынавенствам і іх халуямі, але нават перад суседзямі, бо баяліся выказаць услых сваё набалелае. Тым не менш народ наш не маўчаў, пераадольваючы свой страх. І вось ужо больш як дзвесце гадоў змагаецца за годнае жыццё, незалежнасць Бацькаўшчыны. Падзеі 19 снежня 2010 года яскрава паказалі, што насуперак рэпрэсіям і застрашванням улад жыве неўміручы дух Касцюшкі і Каліноўскага, Купалы і Быкава.

Пералік герояў-змагароў за волю Бацькаўшчыны можна доўжыць і доўжыць. А падзеі Плошчы, упэўнены, увойдуць у айчынную гісторыю як нараджэнне новай фармацыі нацыянальнага змагання за ідэі, дарагія многім пакаленням папярэднікаў.

Мой узрост і стан здароўя, на жаль, ужо не дазваляюць быць у актыўных шэрагах змагароў, але я па-добраму зайздрошчу тым маладым хлопцам і дзяўчатам, якія не схіліліся перад сцяной страху, выказваюць у мірнай форме свой пратэст супраць цемрашальства. Сёння многія маладыя героі праходзяць праз арышты, суды, пасадкі і здзекі толькі за тое, што яны не манкурты, не халуі, не вылюдкі, не здраднікі Бацькаўшчыны. А ў поўным сэнсе Людзі з вялікай літары. Паверце, я, 75-гадовы стары, усім сэрцам і душою, сваімі памкненнямі з вамі, маладыя патрыёты Беларусі! Што і выказваю праз нашу “Народную Волю”.

Кожны нармальны чалавек не можа без душэўнага болю ўспрымаць выказванні Людмілы Фёдараўны і Ніны Васільеўны Мірзаянавых, як і ўсіх тых, чые сыны і дочкі, унукі і ўнучкі, бацькі і матулі, браты і сёстры атрымалі “падзяку” ўлады толькі за тое, што жадаюць дабра не адно для сябе, а і для ўсіх нас. Яны — пакутнікі за ўвесь беларускі народ.

Паважаныя Людміла Фёдараўна і Ніна Васільеўна, родныя і блізкія ўсіх маладых герояў! Мне вельмі блізка ваша гора. Але вы можаце ганарыцца сваімі сынамі і ўнукамі, бо яны здолелі перамагчы страх, а значыць, перамаглі! Такія, як Фёдар Мірзаянаў і іншыя мужныя нашы дзеці, — гэта будучыня Беларусі, прыклад і нам, старэйшым, і іх равеснікам. Прыклад неабыякавасці да лёсу Радзімы і яе будучыні. Хай дойдуць яны па сваім пачэсным шляху да сваёй мары, убачаць светлы дзень, за які змагаюцца. А тыя, хто іх узрасціў такімі мужнымі, чыстымі, адважнымі, ведайце: вы не дарэмна жывяце на гэтым свеце, бо выхавалі выдатных людзей. Жадаю вам, дарагія, і вашым цудоўным дзецям добрага здароўя і непахіснасці! Вы набліжаеце светлы час для роднай зямлі.

**З павагай —**

**Мікола КАНАХОВІЧ,
ветэран Узброеных сіл.**

*г.Пружаны.*

МЫСЛИ ВСЛУХ

## Не хочу ни войн, ни революций...

Перед Новым годом посмотрела пресс-конференцию А.Лукашенко, а еще раньше — интервью с ним, которое делал Сергей Доренко. И как-то темно стало на душе. Где же наше гражданское общество, где партии, общественные организации? Где лидеры? Где дискуссии о том, как мы живем и каковы пути нашего развития? Где чувство собственного достоинства всех нас и каждого? А нас все пугают и пугают: “Не дай Бог...” Мы довольствуемся “астматическим дыханием”, не лечимся, а нашим лозунгом стало “Абы ціха!”...

Мне 70 лет, я не хочу ни войн, ни революций. В моей семье трое погибли на фронте, в том числе отец. Я от всей души желаю своему трудолюбивому народу процветания! Нам хватало бед. Мы достойны лучшей жизни, нам нужны перемены, чтобы она наступила.

Хочу сказать спасибо Марине Коктыш за ее вопрос президенту. И сердцем и умом я присоединяюсь к нему, ибо повеяло мужеством, силой убеждения, правдой жизни. Словно свежий ветер пронесся над затхлостью.

В Новом году Вам, Марина, и всем сотрудникам “Народной Воли” крепкого здоровья, успехов и мужества! С Рождеством!

**С искренним уважением —**

**Т.Н.ЗБОРОВСКАЯ.**

МНЕНИЕ

## Зачем нам такая армия?

По-моему, правильно ставит вопрос читатель Л.Черныш в публикации “О войне и военной безопасности”: затеянная в верхах еще одна армия под названием “территориальная” ничего стране не даст, кроме большей напряженности в обществе. При современных средствах ведения войны берданками не защитишься, да и кому, хотя бы теоретически, нужно на нас нападать? А обычный, невоенный человек с ружьем в мирное время — палка о двух концах: по неосмотрительности можно бед натворить.

Как бы ни объяснял наш правитель жуткую необходимость всех нас построить, слова звучат неубедительно. Мне кажется, наверху сильно напуганы недавними событиями в североафриканских странах, где народы восстали против “долгоиграющих” диктаторов, и создают у нас такое войско для подавления народных волнений, а не ради отпора нападениям извне, которые на горизонте и не просматриваются. Но если — не дай Бог — возникнет угроза агрессии против страны, то защитить ее в сегодняшних условиях лучше всего сможет хорошо обученная и оснащенная современным оружием настоящая — хорошо бы, профессиональная — армия.

**Я.СТАРОХАТНИЙ,
пенсионер.**

*Гродно.*

